# СПРЭЧКА ПАД КАСЬЦЁЛАМ

Сымон:. - Скуль вы, паночку?
Пан Яцэнты: - Я - аж з Велькей Околіцы
Дзесенць вёрст од Луконіцы
Я Плавскі з Плавскіх,
Сын Плавскего. А ты скондыць?
Сымон: - Я, паночку,
жыву недалёчку -
Тут у Луконіцы.
Яцэнты: - (*да сябе*) Ага, хлоп! То трудна рада.
(*Да Сымона*) Цо ту чуваць? Нех пан
гада.
Сымон: - Жывём, пане мой, спакойна,
Працавіта, багабойна.
Касьцёл блізка, дык вясёла:
Ходзім часта да касьцёла.
А даўней ня так бывала -
З гакам трыццаць вёрст - бязмала:
Пакуль у Слонім даскрабешся,
Дык начыста падаб'ешся.
Ды ня толькі за дарогу -
За ксяндза тож дзякуй Богу!
І даступны і вясёлы,
І ў касьцеле, і да школы
Прыбягае, дзетак вучыць -
Аж залішне часам мучыць.
Яцэнты: - Хоць вы хлопы, ды палякі,
А тэн ксёндз тут... нейкі, такі.
Цо он гэта.... проста мова
Навет хамске ў ёй слова
Зачол мувіць на амбоні.
А няхай нас Пан Буг броні!
Сымон: - Ах, мой міленькі паночку!
Што ж ты валіш як у бочку?!
То ж вы тут не за гарамі:
Мы вас добра знаем самі -

Ні паруску, ці французку,
Вы ж папросту, беларуску -
Тож гаворыце ўсюды
(*да сябе*) Не люблю цярпець аблуды!

Яцэнты: - А ты сконд вещ, пане?
Хто так муві, кламе!
Мувім тылько в дому
Часэм покрыёму,
До паробка, дзевкі.
Але нашы дзеткі,
Хлопцы маладыя
І мы ўсе старыя
Далікатну мову -
Польскую размову -
Так мы палюбілі,
Што, каб нас забілі,
Яе не пакінем!
Хіба перш мы згінем.

Сымон: - Ніхто вас не забівае;
Кожны гэта добра знае,
Што наш край для нас як маці:
Мы жывём у сваёй хаце.
Беларуска наша мова,
Хоць і просты ў ёй словы,
Але родныя і мілы:
Ад калыскі да магілы
Гэтай мовай мы гаворым,
Ці жартуем, пяём, спорым;
На вясельлі ці ў патрэбе...

Яцэнты: - Бракавала яшчэ ў небе!
Ксёндз з навукай выязджае:
Хамску мову ўсюды пхае
І ў касьцеле... то ж адвага!
Гэта ж брыдка, стыд, зьнявага!
І ня бачыць, што-якое -
Гэта ж месца там сьвятое!
Дачакаем яшчэ скора -
Ксёндз да Бога прагавора,
Як той кажа: проста з мосту!
Так, пахамску, ці папросту!

Сымон: - А бадай вам было гола!
Ня ўкусіць ксёндз касьцёла:
А ў небе, мой ты браце,
Мейсца досыць: хваце, хваце!
Знаю я чаго вам трэба:
Тут палітыка - ня неба!
Яцэнты: - Як ты хлоп, то сваё хваліш:
Толькі гэтага ня знаеш, -
Што польска мова далікатна:
Яна ёсьць пекна і прыятна:
Вось як-бы зьеў хлеба са шмальцам!
Сымон: - Ды гэты хлеб для нас з закальцам;
Нам проста мова наймілейша,
У кожнай справе найпярвейша:
Гаворыць ёю кожна матка
Да свайго роднага дзіцятка.
Яцэнты: - Ды ваша мова найпрасьцейша,
А польска дужа шляхетнейша!
Сымон: - Э, што да шляхты - лепш ня рухай,
А калі хочаш, дык паслухай;
Вось вам гісторыя пакажа,
Якраз памоему дакажа:
Што наша мова слова-ў-слова
Была шляхоцка і князёва.
У ёй гаварылі Радзівілы,
І князь Сапега, і вяльможы,
І шляхта ўся, і народ Божы.
Яцэнты: - То мусіць нашай ня ўмелі?
Сымон: - І ня ўмелі й не хацелі!
Ды што таіць! скажу тут сьмела,
Што князь літоўскі, сам Ягела,
Хоць каралём каранаваўся,
Іначай тож не адзываўся,
Як беларускай нашай мовай.
І ў палаце тож замковай
Пабеларуску ўсе пісакі
Лісты складалі там усякі,
Пісалі акты, дакумэнты -
Ці чуеш, васпан, пан Яцэнты?
Яцэнты: - Адкуль ты ведаш ўсё гэта?

Сымон: - Ў мяне ёсьць кніжкі, ёсьць газэта;
І досыць многа я чытаю,
А як ня ведаю, пытаю.
Ня думай дрэнна пра Сымона:
Я не такі, як... хто - варона!

Яцэнты: - І я тэж ксёнжэк мам досьць веле:
Газэты не мам вось тыкеле.

Сымон: - Каб пан болш думаў і чытаў-бы
Скарэй-бы праўды дапытаў-бы;
Пазнаў-бы пан, як-то калісьці
Ці для тытулу, ці карысьці
Тут наша шляхта і вяльможы
Стапталі ўсе законы Божы:
Зраклісь ўсяго свайго дашчэнту.
Пайшло вяліка разарваньне,
А ў нас - чужынцаў панаваньне.
Паны згубілі нашу волю,
А мы папалі ў няволю.
Цяпер нас цягнуць за сабою,
Таей дарогаю крывою:
Калечаць нас і мучаць вечна -
Работа гэта небясьпечна.
Народ жывы, жывога-ж зьесьці...
У вас далёка розум гдзесьці!
Дык вось наш ксёндз ў даступнай мове,
У нашым простым, родным слове,
Стаў Бога ўсім людзям тлумачыць:
Што кожна праўда веры значыць,
І як нам жыць, талкуе многа,
І шмат тож іншага такога.
Цяпер мы сталі разьбірацца:
Цаніць сябе і мову родну,
І справу нашую народну.
Кідаем сваркі і лямэнты...
Што-ж ты на гэта, пан Яцэнты?

Яцэнты: - Я тут нічога... То ест - многа
Тут нарабіў ксёндз гэты злога,
Бо народ просты ён бунтуе

І нас вось, шляхту, не шануе.
Сымон: - А што зрабіў ён вам такое?
Яцэнты: - Ну, нібы гэта, нібы тое...
Сымон: - Эх, годзі нам з табой спрачацца;
І мусіць лепей разьвітацца?
Яцэнты: - Мы тэму ксендзу не даруем:
Вось толькі мы яго шкадуем;
А то мы зара да дзекана,
Мы да біскупа, мы да пана
Старосты пойдзем, як захочам.
Мы хоць куды, як трэба, скочым.
Сымон: - Так, так, вы добры! Пажалелі...
Бадай вы тое сама зьелі!
Яцэнты: - Што, можа мы малыя дзеці?
Мы будзем так сабе сядзеці -
А тут тымчасам важна справа!
Якое ксёндз тут мае права,
Каб мову простую, паганску,
Ў касьцёл уносіць? ды пахамску
Каб нас вучыць? а мы ня хлопы!
Сымон: - Та, так - разумны! з Эўропы
Вы самы, самы наймудрэйшы!
Яцэнты: - Хто-о?
Сымон: - Вы, шляхцюры ўсе тутэйшы!
Толькі-ж вы крышачку лянівы,
Як той жыдоўскі конь фальшывы:
Падскочыць ўгору і асядзе.
Хоць кол ламі яму на задзе.
Яцэнты: - Мы на ксяндза, хоць шкадавлі,
А ўсё-ж, гдзе трэба, напісалі.
Сымон: - Але-ж ён шляхты не баіцца!
Яцэнты: - Ды мы гатовы хоць пабіцца!
Сымон: - Як та - з ксяндзом? і гдзе - ў
касьцеле?
Яцэнты: - А нам ўсё роўна: вось тыкеле,
Каб на сваім усё-ж паставіць -
І, як захочам, дзела справіць.
Мы яму зробім яшчэ штукі:
Якраз падловім ў час навукі -
Ў запас людзей з сабою клікнем,

Як запяём, а посьле крыкнем...
Сымон: - Ну, а як гэта не паможа?
Яцэнты: - Э, кожны штось ў кішэнь паложа...
Сымон: - То ж ты казаў - касьцёл шануеш?...
Яцэнты: - Цяпер кажу, ці добра чуеш?
Табе сказаў я пад сакрэтам,
Дык данясі ксяндзу аб гэтым:
І спаць у шапку мы ня будзем!
Што падпісалі, то здабудзем!
Сымон: - О, знаю, так - паны вы важны!
Вы пры бутэльцы тож адважны.
Як памагчы, дык вы тагды калекі.
А як захочаце пашкодзіць,
Ці ашукаць каго, сазводзіць -
Тагды вы першы.
Яцэнты: - Што ты кажаш?
Сымон: - А што на гэта мне адкажаш?
Яцэнты: - Мужык ты, хлоп ты, дурань, хаме!
Няма больш дружбы паміж намі.
Ты што язык свой распускаеш?
Я шляхціц, хлопе ты, ня знаеш?
О, мне юж дзісяй досыць тэго -
Я Плаўскі з Плаўскіх - сын Плаўскего!
(*Выходзіць*)

## II

Сымон: (*Паківаўшы галавой ў старану Яцэнтага, кажа ў старану публікі*):
- Гавары з кабылай пацеры!...
Што тут памогуць аргумэнты,
Калі дурны сам пан Яцэнты!
(*Задумаўшыся, ходзіць па сцэне*).
- Але-ж, мой моцны, добры, Божа!
Чаго-ж людзкая злосьць ня можа?
А мы з сьвятою справай нашай,
Як тыя скваркі - зьесьці з кашай
Даёмся, навет і ня спорым -
Вось толькі часам пагаворым,

Ці паклянём, ці пабядуем,
Або і так, як-бы ня чуем...
А кругом нас ўзялісь за рукі
І сталі нам даваць навукі,
І б'юць па носе, колькі ўлезе,
Як той каваль ды па жалезе.
Ўсе проціў нас, а гдзе прычына?...
Ты, Беларусь - мая Айчына!
(*На адным калене; правая рука ўгару, да публікі*)
- Цябе, цябе у сэрцы маю,
Табе я вернасьць прысягаю!
Ня марны толькі дам я словы,
Але жыцьцё аддаць гатовы!
Ты - Беларусь, Айчына, Маці,
Прымі прысягу ад дзіцяці!
(*Устае. Адмахівае рукой*)
- Далоў, далоў усе спакусы!
Мы людзі тож, мы Беларусы.
Ня будзем-жа ўсьцяж баяцца:
Пара, пара за дзела брацца!
(*Аглядаецца*)
- Ага, вось нехта йдзе сюды.

III

Сымон: - А вы, паночку мой, куды?
І з нейкай доўгаю паперай,
Так позна - а гадзіне шэрай?
Валенты: - Ах, міленькі браток, Сымоне!
Патрэба, бачыш, мяне гоне.
Інтэрас гэты вельмі пільны -
Мы пасылаем аж да Вільні,
Каб згэтуль ўзяць ксяндза такога,
А нам прыслаць скарэй другога.
Да эксцэленцыі біскупа...
Сымон: - Эх, доўбні вы, а васпан - ступа!
І чым ксяндзок наш вінаваты?
Запрацаваны і заняты:

Усё, як трэба, адпраўляе,
Касьцёл, будынкі папраўляе,
І сам ахвярны, небагаты;
Заходзіць проста к нам у хаты...

Валенты: - Якраз вось гэта непатрэбна!
Бо мова хамская - ганебна.
А тут сам ксёндз у ёй гавора.
Так мне казалі шляхты ўчора.
Вазьмі, браточак, падпішыся.

Сымон: - Ці я здурнеў? лепш адчапіся.
Тут наша мілая Айчына.

Валенты: - Скажы, каторая гадзіна?
Бо, відзіш, вельмі я сьпяшаю:
Яшчэ аблётаць многа маю.

Сымон: (*да сябе*) Каб ты лятаў наперад задам!
Вось гаварэце з такім гадам!

Вінцэнты: - Пан нешта кажаш, мне здаецца?

Сымон: - Я віджу - наша згода рвеца.
Але-ж падумай, будзь ласкавы!

Вінцэнты: - Але-ж я думаць не цікавы!
Як не падпішаш, тагды годзе -
Па нашай дружбе і па згодзе!

Сымон: - Таксама плачу я праз гэта
Як па тым сьнезе серад лета.
Калі, пан, розум яшчэ маеш,
Паслухай. Што-ж ты мне мяшаеш?
Дапраўды, стыдна вам чапіцца:
За што гразіць, за што тут біцца?
Мы тут жывём ў адным народзе:
Дык можам жыць у мілай згодзе.
Вы - шляхта, добра - няхай будзе.
Але-ж і шляхта так-жа людзі.
Мы людзі просты, што-ж за дзіва?
Мы любім "проста", а вы - "крыва".
Я тож разумных шляхтаў знаю,
Жывуць між вамі, ў гэтым краі,
Што любяць родную Айчыну.
Знаў я такога малайчыну:
Быў ён праўдзівы патрыёта.

Ды ёсьць, сказаць-бы так - балота.
Што вось - крычаць, лісаць ці юдзіць,
Ці справу чыстую забрудзіць -
Усюды першыя даскочаць.
І тут згубіць ксяндза нам хочуць,
Пабачце, што натура кажа,
Што зьвер, што птушка нам пакажа:
Усе, як ёсьць, свой голас маюць
І згодна між сабой гукаюць;
І так вучымося з прыроды
Любові добрай, так-жа згоды!
Што маеце да нас, скажыце,
Нам наша права ўступіце:
Тагды зьбяромся, разам сядзем
І пагаворым і парадзім -
І створым так адну сямейку,
Бяду прагонім ліхадзейку...

Валенты: - Гадоў за тысяч будзе,
Як мы жывём у Прудзе.
Ніколі-ж мы ня сьнілі,
Аж да апошняй хвілі,
Каб ксёндз наш каталіцкі -
Наш пробашч Луконіцкі -
Пакінуў мову польску!
Каб навет паяпонску
Ён стаў казаць навуку,
Дык я на гэту штуку
Сапраўды менш дзівіўся-б;
А так я з толку зьбіўся.

Сымон: - Ня трэба таго баяцца,
А лепш за розум ўзяцца;
Бо справа вельмі ясна:
Старонка тут няшчасна -
Былі тут бітвы, войны -
Народ ціхі спакойны,
Ён сам сябе баяўся;
Усіх кругом стыдаўся.
І мы вось разарваны:
Вы - важны "мосьці паны",
Мы страцілі, што мелі -

Схлапелі, апрасьцелі.
Аднак згадзіцца можна.
Валенты: - Эй, браце, асьцярожна!
Сымон: - Пара нам спрэчкі кінуць.
Валенты: - Яна павінна згінуць!
Сымон: - Хто?
Валенты: - Гэта мова проста.
Сымон: - Чаму-ж?
Валенты: - Казаў староста,
Што ксёндз ня мае права.
Сымон: - То ўжо пачата справа?
Валенты: - Я толькі з інатарэсам -
Прасіў на хату лесу.
Ён клікнуў мяне ў хату,
Прынёс на стол гарбату:
Сам служыць, вельмі просіць.
Я піў, аж покуль досыць.
Сымон: - Ну, гэта нам ня дзіва,
Што сьляпы ходзіць крыва;
А воўк ягнё як сьвісьне,
Дык бедна ані пісьне...
Аднак вось наша мова -
Нам ясна кожна слова.
А ксёндз, так як дзіцяці,
Талкуе, так як маці.
Гаворыць нам аб Богу
І простую дарогу
Да неба нам пакажа.
Ніхто так не дакажа!
Валенты: - Эй, не кажы мне болей!
Як ня было ніколі,
Так і цяпер ня будзе,
Пакуль жывём у Прудзе!
Сымон: - Чаму-ж пан так праціўны?
Валенты: - Парадак гэты дзіўны,
Што ксёндз завёў ў касьцеле.
Для нас як горка зельле,
Ніяк прыстаць ня можа.
Ратуй нас, Пане Божа!
Сымон: - Пан розуму ня маеш:

Ў касьцеле не бываеш,
Дык мы дарэмна спорым.
Мы посьле пагаворым,
Як васпан сам пачуеш,
А так дарэмна злуеш.

Валенты: - О, я да касьцёла скоры,
Ды быў я ўчора хворы.

Сымон: - Як-то, учора - кажаш?
Ты праўду з фальшам вяжаш -
Ты-ж быў учора п'яны!

Валенты: - Я быў у сьведкі званы...
Ды досыць, адчапіся!
Вось лепей падпішыся.

Сымон: - Дык пакажы-ж мне бліжай!
Сюды дай! крышку ніжай...
Цяпер вось добра будзе...
(*Хватае паперу і рве*).

Валенты: - Што робіш? гвалту, людзі!

Сымон: - Вон, прападзі ты, Юда!
Ты фарызэуш, ты паскуда...
(*Выпіхае са сцэны*).

IV

Іначай тут ня можна
Тлумачыў яму розна;
Аднак тут справа ясна -
Бліжэйша скура ўласна....

Айчына дарагая!
Ты для мяне сьвятая:
І наша мова родна
І справа тож народна.

## Пасьляслоўе.

Вінцук Адважны — літаратурны псэўдонім кс. Язэпа Гэрмановіча (1890-1978). Нарадзіўся ён у Гальшанах у беднай сям'і. Бацька памёр, калі Язэп быў яшчэ зусім маленькі. Суседзі і сваякі раілі аўдавелай маці аддаць Язэпа на навуку да шаўца, але яна не згадзілася і, нягледзячы на цяжкасьці, зрабіла ўсё, каб сын стаў сьвятаром. У 1913 г. ён канчае Віленскую духоўную сэмінарыю і атрымлівае сьвятарскія сьвячаньні. Праз наступныя дзесяць гадоў працуе ў розных парафіях Віленскай дыяцэзыі. Усюды малады сьвятар стараецца ўводзіць беларускую мову ў касьцельнае жыцьцё, церпячы за гэта прыкрасьці з боку духоўных і, пасьля польскай акупацыі Заходняй Беларусі, дзяржаўных уладаў. У1924 г. ён паступае ў кляштар беларускіх Айцоў Марыянаў у Друі. У 1932 годзе ён змушаны выехаць на місыйную працу ў Харбін (Манчжурыя). Харбінская місія была для беларускіх Марыянаў свайго роду месцам выгнаньня , цаною, якую трэба было заплаціць за дазвол з боку польскіх уладаў на існаваньне кляштару ў Друі. У 1936 г. а. Гэрмановіч вяртаецца на Бацькаўшчыну, але ў 1938 г., пасьля разгону польскімі ўладамі беларускіх Марыянаў у Друі, вяртаецца зноў у Харбін. У 1949 кітайскія камуністы яго арыштоўваюць і прадаюць Саветам. Наступных 6 гадоў яму прыйшлося правесьці ў зьняволеньні ў савецкіх турмах і лагерах. Пасьля сьмерці Сталіна, ён быў вызвалены і высланы (без яго згоды) ў Польшчу. Адтуль яму ўдалося выехаць перш у Рым, а пасьля ў Лёндан, дзе заставаўся да канца жыцьця.

Літаратурную дзейнасьць Адважны пачаў з допісаў у газэту "Крыніца" (ад 1925 г."Беларуская Крыніца"). Ён не пакінуў друкаваць у ёй свае творы нават пасьля таго, як польскі арцыбіскуп віленскі Рамуальд Ялбжыкоўскі забараніў у 1928 г. сьвятаром сваёй дыяцэзыі супрацоўнічаць у ёй .

Адважны пісаў вершам і прозаю. Шмат ягоных твораў выйшла асобнымі выданьнямі ў міжваенны пэрыяд. Талентам ён уступаў Казімеру Сваяку, але ягоныя творы, напісаныя простай, зразумелай моваю, з веданьнем жыцьця і тонкім пачуцьцём гумару, здабылі сабе шмат прыхільнікаў сярод чытачоў у Заходняй Беларусі.

Сцэнічны абразок "Спрэчка пад касьцёлам" можна назваць замалёўкай з жыцьця ў Луконіцкай парафіі, што каля Слоніма, дзе аўтар быў пробашчам у 1920-23 гг. Нягледзячы на 70 гадоў , якія нас аддзяляюць ад часу напісаньня гэтага твору, думаецца, што ён зацікавіць і сучаснага беларускага чытача. Ён можа быць доказам праўдзівасьці францускай прыказкі : "Чым больш нешта мяняецца, тым больш застаецца такім самым"...

Тэкст узяты з выданьня: W.A - Biełaruskija Cymbały. Wilnia 1933.